 

Журавы ў зялёным пекле | Літаратурная старонка | Грыгораўцаўскія матывы


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 27 (436) | ГОД IX | 5 ЛІПЕНЯ 1964 г. | ЦАНА 60 ГР.


# ШЛЯХІ РАЗВІЦЦЯ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ

Звычайна, найбольшая нават нарада, з'езд, канферэнцыя — цікавіць толькі некаторыя слаі насельніцтва, якога датычыць даная праблематыка.

Але падзея, якая нядаўна мела месца, мае цалкам іншы характар. Няма, бадай, у цэлай Польшчы дарослага чалавека, які б не пацікавіўся гэтай вялікай дыскусіяй: IV З'езд Польскай Аб'яднанай Рабочай партыі з'явіўся ў цэнтры ўвагі абсалютна ўсіх, бо ўсіх нас датычыць.

Першы сакратар Цэнтральнага Камітэта партыі тав. Уладзіслаў Гамулка ў сваім з'ездаўскім дакладзе нямала месца прысвяціў справам далейшага развіцця сельскай гаспадаркі, якая побач прамысловасці адыгрывае першарадную ролю ў нашай нацыянальнай эканоміцы.

Хутка расце запатрабаванне на сельскагаспадарчыя прадукты, што звязана з развіццём прамысловасці і павышэннем жыццёвага ўзроўню людзей. За пасляваенны перыяд выйшла з вёсак у гарады амаль тры мільёны чалавек і гэты прыплыў працоўных рук у гарады будзе адбывацца далей. Ураджайнасць палёў павялічваецца даволі хутка, асабліва у астатняе дзесяцігоддзе. У 1961/62 гадах у параўнанні да перадваенных 1934 — 1938 гадоў сельскагаспадарчая прадукцыя на душу насельніцтва ўзрасла на 50%, а ў пералічэнні на 1 гектар — на 67%.

Нягледзячы на тое, наша сельская гаспадарка не ў сілах пакрыць цяперашніх патрэб. Датычыць гэта ў першую чаргу мяса, якога ў нас усё яшчэ мала, бо не хапае збожжа і кармоў.

Не хочам і не можам далей мірыцца з такой сітуацыяй. Маем магчымасці даць такую колькасць збожжа і кармавых культур, якая поўнасцю пакрые не толькі ўсе патрэбы, але зможам таксама экспартаваць значны колькасці мяса.

**Таму вырашэнне справы павелічэння збожжавых рэзерваў з'яўляецца адной з галоўных задач будучага пяцігадовага плана развіцця народнай гаспадаркі.**

Калі сельская гаспадарка не змагла вырашыць справы павелічэння збожжавай прадукцыі, дык тлумачыцца гэта тым, што мала дагэтуль удзялялася сродкаў на развіццё вытворчай базы (механізацыі), а перад усім, мала прадукуем штучных угнаенняў.

Аналізуючы развіццё сельскагаспадарчай прадукцыі ў краінах Заходняй Еўропы, аказваецца, што там пастаянна павышаецца ўзровень забеспячэння сельскай гаспадаркі сродкамі прадукцыі. Хаця розніца паміж нашай сельскай гаспадаркай і заходнееўрапейскай ужо значна меншая, чым перад вайною, асабліва, у механізацыі і выкарыстоўванні штучных угнаенняў, аднак застаецца нам яшчэ многа папрацаваць, каб дагнаць перадавыя краіны.

Вось даныя за 1961 год:

| | Данія | Бельг. | ФРГ | Франц. |
|---|---|---|---|---|
| ураджай 4-ох збожжавых | 37,5 | 38,4 | 31,7 | 24,7 |
| бульба | 181 | 272 | 191 | 147 |
| цукровыя буракі | 345 | 346 | 319 | 334 |
| кілаграмы штучных угнаенняў NPK у чыстым рэчыве на 1 гект. | 135 | 204 | 160 | 67 |
| плошча ворнай зямлі ў гектарах на 1 трактар | 22 | 19 | 9 | 29 |

Адносна Польшчы гэтыя самыя лічбы (ужо за 1963 год) наступныя: ураджай 4-ох збожжавых — 17,3 цэнтнераў з гектара, бульбы — 158 ц/га, цукровых буракоў — 287 ц/га, штучных угнаенняў — 45,5 кг NPK на 1 га і 164 га ворнай зямлі на 1 трактар.

У сучасны момант рост сельскагаспадарчай прадукцыі не можа адбывацца толькі праз большы ўклад працы і выкарыстоўванне рэзерваў працоўнай сілы. У першую чаргу трэба палепшыць угнаенне зямлі і ўжываць хімічныя сродкі для барацьбы з пустазеллем; патрэбна механізацыя, пашырэнне меліярацыйных работ, будаўніцтва, пашырэнне сеткі ўслуг і сельскагаспадарчай прамысловасці. Планаваныя капіталаўкладанні ў сельскую гаспадарку павінны павялічыць лік трактараў: лік гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў на 1 трактар павінен паменшацца з 210 да 86 у 1970 г. Лік штучных угнаенняў павялічыцца з 45,5 кг NPK на 1 га да 130—140 кг на 1 га (у тры разы!) Меліярацыя ахопіць плошчу 1,2 мільёна гектараў ворнай зямлі і 840 тысяч сельскагаспадарчых угоддзяў. Павелічэнне лічбы трактараў на 140 тысяч штук дасць нам магчымасць паменшыць пагалоўе коней найменш на 300 тысяч штук, што азначае эканомію вялікай масы кармоў для развіцця жывёлагадоўлі. Болей развітыя краіны ўжо 15 год таму назад мелі столькі трактараў, колькі мы цяпер.

(Працяг на стар. 4)



Жыта даспявае.

# У бляcках нафтовай лямпы

За пясчанымі горамі прыталіліся бабікоўскія вёскі, копцяць нафтавымі лямпамі і наракаюць, што ўвесь свет забыў пра іх. Калісьці, бывала, прыязджалі ўсякія начальнікі і нагаварвалі, каб правесці ў хаты электрычнасць. (Не за дарма, не). Тады народ не хацеў, а цяпер ужо хоча, але начальнікі не прыязджаюць. Мо' абразіліся яны? Не, не абразіліся. Уся справа ў тым, што асноўныя электрыфікацыйныя работы на Сакольшчыне закончаны і перанесены ў другі павет.

Значыць, хто захацеў, цяпер хай пачакае. Ды як жа тут чакаць, калі наўкола гараць агні лямпачак, і ў Шудзялаве таксама. Бабікоўская акаліца заплывае багном вечаровай цемнаты, па хутарах брэшуць сабакі.

Аднак не такі ўжо бязлітасны наш свет, каб цалкам забыцца, што недзе ёсць Бабікі. Ратуюць іх, як могуць — вось будуецца дарога за дзяржаўныя грошы, плаціцца гаспадарам па сотні за кубічны метр каменняў. Чысты заробак на гэтым каменевым прыбытку, ад якога тупеюць плугі на гарыстых палетках. Па бруку загудзелі — затрубілі сакольскія «пэкаэсы » аж у Кнышэвічы — нат' па два разы ранкам і ўвечары. Моладзі радасць, дарослым выгада.

(Працяг на стар. 4)








Сямяціцкі рынак характэрны для старых мястэчак. Тут сыходзяцца ўсе галоўныя вуліцы. На рынку найпрыгажэйшыя ў Сямяцічах крамы — тут кожны дзень вялікі рух. Асабліва папрыгажэў Сямяціцкі рынак у апошні час.

Фота В. Рудчык

 

